IMAGE COMICS PRESENTS

# THE WALKING DEAD™

**ROBERT KIRKMAN**
Creator, Writer

**CHARLIE ADLARD**
Penciler, Inker, Cover

**CLIFF RATHBURN**
Gray Tones, Cover Colors

**RUS WOOTON**
Letterer

## Previously:

After reuniting with Dale and the rest of the group who fled the prison in the RV, Rick and crew settled into Hershel's farmhouse--only to suddenly be confronted with a new group of survivors--a group who offer the possibility of learning exactly what it is that started this whole mess.




THE WALKING DEAD #54. October 2008. Published by Image Comics, Inc. Office of publication: 1942 University Avenue, Suite 305, Berkeley, California 94704.


**Прычыну**?
Аб чым гэта ты? Што за брэдні?!


Я быў адным з дзесяці чалавек, якія працавалі над мапай чалавечага генома, калі пачалася чума. Мы рабілі гэта не дзеля якіх-небудзь медыцынскіх даследванняў для ратавання чалавецтва... Мы рабілі гэта для выкарыстання ў **вайсковых мэтах**... Распрацоўвалі хваробы, якія ўздзейнічалі б толькі на людзей пэўнага рэгіянальнага фона.
Тое, чым мы займаліся, было вельмі важна. Я прысутнічаў на паседжаннях галоўных асоб у кіраўніцтве краіны.
Я дакладна ведаю, што прымусіла мерцвякоў пачаць разгульваць, прыяцель.


...І я ведаю, якія магчымасці ў Вашынгтона... калі яны атрымаюць тую інфармацыю, што я ім прывязу... яны змогуць спыніць гэтае шаленства назаўсёды.



Ох...
...Што?!
Гэта **жарт** нейкі?!
Чувак працаваў на Вашынгтон. Ён ведае, што здарылася.
Ты можаш звязацца з людзьмі ў Вашынгтоне?
Калісьці мог. Але мяркую, сілкаванне на ўзмацняльніку сігнала паляцела... Цяпер яна не працуе на вялікія адлегласці.
Я правяраю рацыю толькі раз у сто кіламетраў, каб сэканоміць на батарэі.
Мы едзем з Х'юстана... Прарываліся праз столькі кіламетраў... толькі для таго, каб аказацца дастаткова блізка для з'яўлення сігнала.


Справа ў тым, што мы не зможам закончыць гэтую місію самі. Нам патрэбна дапамога... Адзін кінуты грузавік на дарозе - і мы ўжо павінны ісці пешкі.
Нас вельмі мала, каб расчышчаць дарогу ад машын... ці адбівацца ад статка, калі мы сутыкнемся з яшчэ адным.


Ты ўжо другі раз узгадваеш статак. Што гэта, чорт бяры...
Хвіліну!


Гэты ляснуты маркітун толькі што сказаў, што ведае прычыну з'яўлення вандроўных і як спыніць гэта ўсё назаўжды?


Так, менавіта гэта я і сказаў.


Тады чаму б табе не паведаміць аб гэтым нам, пакуль ты не забраў свае веды з сабой у магілу?!
**Андрэа!**
Ты зробіш толькі **горш**!


Ты толькі трымай сваё ружжо, накіраваным на май-го сябра, пакуль мы будзем размаўляць. Бо мне ёсць, што табе расказаць.


Лепш бы табе стаяць там, дзе стаіш.


THWACK!
І цяпер ты ведаеш, **чаму**.


PKOW!


У першую чаргу я адкажу на пытанне аднарукага хлоп-ца, але толькі таму, што ён спытаў па-чалавечы, не тыкаючы ў нас зброяй.
«Што такое статак?»


Гук майго стрэла разнесся ва ўсіх напрамках ліха яго ведае на якую адлегласць. Кіламетра два? Ці тры? А халера яго ведае... Але да гака далёка.
Давайце я вам раскажу, як усё адбываецца, бо вы, відаць, не звярнулі ўвагу на ўвесь апошні год гэтага пекла на Зямлі, у якім мы ўсе аказаліся.


Кожны гнілы мярцвяк, які пачуў гэты стрэл, падымецца і пойдзе на яго. Ёсць гук, значыць, ёсць людзі... А калі ёсць людзі, значыць, ёсць мяса.
Некаторыя з іх зусім блізка і могуць прыйсці сюды. Да таго часу, як вы знаходзіцеся ў стацыянарным лагеры... гэта праблема.
Большая іх частка не здольна хадзіць па прамой і яны неверагодна тупыя... Яны могуць згубіць інтарэс ці пайсці ў няправільным напрамку.
Але часамі... так бывае не заўсёды... калі адзін праходзіць міма другога, той устае і ідзе за ім. Потым яны сустракаюць усё больш і больш. Разумееце, да чаго я вяду?


Яны фарміруюць вялікую групу... І ў нейкі момант іх група сутыкаецца з іншай групай... І яны аб'ядноўваюцца ў адну буйнейшую групу. Што вы зробіце з сотняй маркітаваных мерцвякоў... якія брыдуць без прыстанку на гук, аб якім усе яны ўжо даўно забылі?
Яны ідуць, бо ідуць астатнія, а астатнія ідуць таму, што ідуць тыя. Гамон, як тупа.
Але гэтая ліхамаць якая вялізная група вандроўных зомбі, вы ж іх вандроўнымі завеце? Так і ёсць. Вось гэтая ліхамаць які натоўп і завецца статкам. Ва ўсялякім выпадку, мы яе так называем.


Гэта гамон якая непрыемная рэч.


Цяпер да пытання малькай міс Заб'ю-вас-усіх...


Пайшоў ты ў дупу.


Адразу пасля цябе. Юджын... як бы ты адказаў на яе пытанне, калі б не быў так заняты тым, каб не накласці ў порткі?
Я б ёй нічога не адказаў. Гэта ўсё сакрэтна.


Так, гэта сакрэтна... Ён ніколі не расказваў нам, і табе, курвіска, нічога не скажа. Уяўляю, аб чым ты зараз думаеш... Гэты хлопец звар'яцелы... Ды ўсе гэтыя людзі ашалелі... Які дурань пацягнецца з гэтым псіхам у Вашынгтон, нават не разумеючы ні воднага яго слова?
І правільна... Бо менавіта так я сам падумаў пра Юджына, калі ўпершыню сустрэў яго. Што за дурнаваты лайнюк... Гэта была мая першая думка.
Але я **памыліўся**.


Калі ён робіць компас, намагніціўшы іголку з дапамогай шоўка, ці лечыць ваш галаўны боль, памасіраваўшы вам скронь вялікім пальцам рукі, вы пачынаеце разумець, што Юджым проста геніяльны высерак...
Праблема **геніяльных высеркаў** у тым, што **тупым высеркам** яны часам здаюцца **дурнаватымі высеркамі**.
І я спадзяюся, што вы, рабяты, не купка тупых высеркаў... Бо Юджын дакладна не звар'яцелы.


Ды кім вы, чорт бяры, сябе лічыце?! Вы не можаце проста прыйсці сюды вось так і раздаваць нам загады.
Ды вы нават не здагадваецеся, праз што нам прыйшлося прайсці!


Слухай мяне, крэтын. У мяне быў васьмігадовы сын, шасцігадовая дачка і былая жана, якая, шчыра кажучы, ненавідзіла мяне. А я ўсё яшчэ кахаў яе. Хрэновая, але як бы там ні было, у мяне была **сям'я**.
А цяпер **няма**.
Мы можам сядзець тут і параўноваць жахі, якія выпалі на наша жыццё, але мне здаецца, што мы пакуль не настолькі зблізіліся, каб плакацца адзін аднаму ў камізэльку.
**Таму ідзі ты да ліхаматары!**


Ён не заўсёды такі... звычайна ён добры.
Абрахам, чорт... мы жа не хочам сварыцца з гэтымі людзьмі.


Слухайце, калі вы не хочаце далучацца да нашай місіі, так таму і быць. Але ёсць у вас штосьці, чым вы маглі б падзяліцца? Нам не пашкодзіла б трохі больш ежы і амуніцыі, як і іншых рэчаў.


Не, клосцьвіў я ўсё гэта! Яны застаюцца тут. Яны нічым не лепш ляснутых мерцвякоў! Трэба навучыць іх розуму.
Гэй... супакойся, прыяцель. У нас тут дзеці, не трэба нам тут гэтага.

Добра, добра... Хм...
Зразумеў, прабач.

Спадзяюся, вы рабяты, разумее-
це, што мы тут не для таго, каб
нашкодзіць вам, і нягледзячы на
мой усплеск, вы, здаецца, даволі
мілыя... Мы гатовыя аддаць усю
нашу зброю, калі вы дазволіце нам
застацца на нач.

Як мінімум мы маглі б абмя-
няцца звесткамі... Пагляд-
зець, ці можам мы навучыц-
ца чамусьці адзін у аднаго.

Дамовіліся?

Ня
ведаю, што і
сказаць...
Рабяты?

Заставайцеся на
адлегласці... і не спра-
буйце што-небудзь
надзівачыць, у такім
выпадку я згодны.

Як скажаш.

Выдатна. Хлоп-
цы, а ў вас **піва**
ёсць?

Клянуся,
за піва адсмак-
таць гатовы.

Прабач,
закончылася.

Але за прапа-
нову дзякуй.




Добра спалося? Што думаеш аб гэтым месцы?
Думаю, што павінен папрасіць прабачэння за тое, што ўдарыў цябе ўчора. Мне неяк няёмка... Таму прабач.
Ты не збіралася страляць у Юджына... цяпер я гэта ведаю.

Ты гэтага ня ведаеш.
У любым выпадку, што табе да гэтага? Ты проста дапамагаеш гэтаму хлопцу патрапіць у Вашынгтон, ня ведаючы нават, што там на самой справе?
Што, калі там, куды вы ідзеце, усе загінулі?

Усё, што я ведаю, гэта тое, што я вырашаю задачу... І ў той час, як я сядзеў без справы, ня ведаючы, што ж мне рабіць, гатовы пусціць сабе кулю ў лоб...
...гэты хлопец прыйшоў да мяне з задачай, з якой, як мне здаецца, я змагу здужыць.
Гэтаму хлопцу трэба патрапіць у Вашынгтон і яму патрэбна мая дапамога. Гэта задача, як раз тое, чым я магу заняць сваю галаву.

Мяркую, яна дапамагае мне захаваць розум.
Ох, курвіска.

Што здарылася?

Лайно... Не, ну проста **трасца**.
І чаму я заўсёды маю рацыю?


Бяжы за сваімі сябрамі, скажы, каб пабралі сякеры з малаткамі... На ўсялякі выпадак, калі мне спатрэбіцца дапамога.
Я пазычу вашыя вілы.








Унг!
WROKK!


WHUDD!


Ухх!


WRAMM!


WHUMP!
Уфф!


Тваю
мацъ.


SHUKK!


Грaааа!


SGLKK!


А цяпер твая
чарга.


SHKKK!


Абрахам,
у бок!


Нават
не спрабуй спу-
скаць курок!
Я сам!


SHLKK!

Тупая похва!

THRONK!


Гарррр!

Не, я не забыў пра цябе.


THUNK!

WHUMP!

Унхх!
WROK!

Ведаеце, але гэта толькі пачатак.

Гэта ўсяго толькі першая хваля... Чорт, яны, напэўна шлі на другі стрэл, які пачулі раней... А мой толькі падправіў іх накірунак.

Тут гэта небяспечна, рабяты.
SKUKK!


Што раяць рабіць людзям, якія заблукалі ў лесе? Заставацца на сваім месцы. А навошта ім так гавораць? Ды таму, што так іх будзе прасцей знайсці тым, хто іх шукае.
Дык вось, уся гэтая гробаная планета шукае вас прама зараз.
Я без разумення, колькі **нас** засталося... Але ўпэўнены, што **іх** значна больш... І ўсе яны шукаюць вас.


Вы жывеце тут ужо нейкі час... Бачыце, як часта на вас нападаюць. І аднойчы, рана ці позна, прыйдзе момант, калі вы не зможаце так проста адбіцца.
Пытанне толькі ў тым, **калі**?


Слухайце, я не спрабую напужаць вас, хлопцы. Проста спрабую дапамагці.
Мы ўязжаем праз некалькі гадзін. Ехаць вам з намі ці не, вырашайце самі.




У яго нядрэнныя аргументы.
Так.


Вось лайно. Знайсці такое добрае месца і потым баяцца, што іншыя людзі таксама захочуць яго.


Мг.


Сумняваюся, што варта заставацца тут.
Мне здаецца, што гэты хлопец, Абрахам, мае рацыю. Ня ведаю, што там з яго вучоным сябрам, і ня ведаю, ці паедзім мы з імі разам у Вашынгтон... Але мяркую, ён мае рацыю. Ня трэба нам заставацца тут.
Рык?


Ты пытаеш мяне? Ты сапраўды гэта робіш?
Ты скажаш заставацца... І мы застанемся. Скажаш уходзіць... і мы ўйдзем.
Я ўжо камандваў калісьці... І глядзі, да чаго гэта нас прывяло. Ты сур'ёзна лічыш, што пасля таго, што адбылася ў турме, я буду спраўляцца з чыімі-небудзь рашэннямі?
Я больш ніколі не буду гэта рабіць, Дэйл. Не буду. Я...
Я не магу.


Добра, я...
Пайду, параюся з астатнімі. Паглядзім, што яны скажуць.


Гак з усім. Ніколі больш не хачу бачыць гэтае месца.
Мэгі?

Я сур'ёзна. Не хачу ўспамінаць аб ім. Не хачу думаць аб ім. І казаць аб ім таксама не хачу.
Проста хачу **ўехаць**... Як можна хутчэй.
Як заўгодна.
Калі Дэйл лічыць, што нам трэба пакінуць гэтае месца... Тады ў дарогу.

Але... у сэнсе, мне здавалася... я лічыў, ты захочаш застацца з-за сваёй сям'і, успамінаў аб ёй.
Мне здавалася, ты хочаш застацца.

Аб чым я, курвіска, толькі што казала?
У мяне няма сям'і. І давай паводзіць сябе так, быццам у мяне яе ніколі і не было. **Калі ласка**.

А зараз памажы мне сабраць рэчы.

Хопіць месца для намётаў і харчоў?
Уяўляю.
Яшчэ як. Павер, гэтая прылада вялізная, убачыш, калі залезіш унутр. Тут, сзаду, нядрэнна... Значна лепш, чым табе здаецца.
Пад час дажджу, аднак, не так файна.













Яны ўжо гатовыя?
Амаль. Як лічыш, у вас знойдзецца мястэчка для яшчэ аднаго чалавека?
Так!


Вось табе і адказ. Залязай і ўладкоўвайся. Нам з Карлам трэба паразмаўляць, перш чым мы рушымся.


Хадзем.
Нічога, сынок... Я проста хачу паразмаўляць.
Што я такога зрабіў?


Што ты павінен зрабіць?
Павінен заўсёды быць з кімсьці і ніколі не заставацца адзін.
Дакладна, але калі штосьці будзе не так, паведамі мне.


І прыглядвай за гэтымі новымі людзьмі. Я не збіраюся пакідаць цябе з імі сам на сам... але ты ўсё роўна сачы за імі.
Калі пачуеш, што яны размаўляюць аб чымсьці дзіўным ці робяць штосьці такое... адразу кажы мне, ты ўсе зразумеў?
Я пакуль ня ведаю, ці давяраю я ім ці не... Але я не збіраюся рызыкаваць гэтай групай, агучыўшы свае асцярогі і ўгаворваючы ўсіх застацца. Хто ведае... Мабыць, яны і нармальныя.
А цяпер, пакуль мы не ад'ехалі... я хацеў яшчэ штосьці табе сказаць...


Ты не ў бяспецы,
Карл.


Ня важна, колькі людзей вакол... ці наколькі бяспечная здаецца мясцовасць... ня важна, што гавораць аб гэтым людзі і ня важна, што ты думаеш... **Ты не ў бяспецы**.
Тое, што мы робім, небяспечна, і я не хачу, каб ты паводзіў сябе лёгкадумна. Ведаю, ты разумееш, што робіш... Ты разумны хлопец, але гэта ўсяго толькі імгненне. Сам ведаеш.
Адно імгненне - і ўсяму канец.


Таму будзь напагатове... увесь час. Ніколі не давай сабе паслаблення.
**Ніколі**.
Паабяцай мне.


Добра, тат.
Абяцаю.


Тады ідзем. Не будзем прымушаць іх чакаць.


Яны гатовыя адпраўляцца?
Відаць, што так.
Што ж, ня будзем іх затрымліваць.


NEXT ISSUE
On the road...
'08

# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

### Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА: МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз пераклада **на 1 месяц раней**, чым падпішчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

### Патрон з падпіскай прэміум

**5 $**

ЗА: МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

**Патрон з падпіскай прэміум** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак. Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы "Цуда-жанчына", "Дарт Вэйдар", "Чорны молат", "Дэпартамент праўды" і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміум.
Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.

# ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ. ДАРТ ВЭЙДЭР

(НУМАР 1. MARVEL, 2015)




**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**



**Gillen, Larroca, Delgado.**
Дзеянне адбываецца пасля падзей «Зорных войн: Эпізод IV: Новая надзея» і першых трох выпускаў комікса «Зорныя войны». Дарт Вэйдэр павінен пакутаваць ад наступстваў яго няздольнасці спыніць Альянс паўстанцаў падчас бітвы пры Явіне, і адпраўляецца на місію, каб весці перамовы з Джаба Хатам . Тым часам Вэйдэр наймае двух паляўнічых за галовамі, каб схапіць Люка Скайуокера і таямнічага агента Імператара.





